ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СЕРАДА, 3 МАЯ 2000г.

№ 34 (8103)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 24 руб.

## ДОШКА ГОНАРУ

### перадавікоў на веснавых палявых работах

**СКП “Чырвоны баец”**

*Алег Паўлавіч* **Лаўрыновіч** *пасеяў збожжавыя на* **286га,** *а Сяргей Лаўрынавіч* **Іваноў — на 271.** *Ігар Дарафеевіч* **Дарафееў** *пасеяў збожжавыя на* **237**, *шматгадовыя травы — на* **250га.** *Міхаіл Іванавіч* **Барадзін** *пасадзіў бульбу на* **18га.** *Яўген Браніслававіч* **Котаў** *падрыхтаваў да сяўбы* **505га** *глебы, а Аляксей Міхайлавіч* **Войцешэк — 479га.**

**Жыліцкі сельгаскаледж**

*Леанід Васільевіч* **Грыбоўскі** *пасеяў збожжавыя і бабовыя, падсеяў травы на* **560га.** *Петр Клімавіч* **Кавалеўскі** *ўнёс мінеральныя ўгнаенні на* **800га.** *Аляксандр Іванавіч* **Костка** *пагрузіў* **7,2 тыс.тон** *арганікі, а Генадзь Рыгоравіч* **Грышчанка** *раскідаў яе* **3,5 тыс.тон.**

**Калгас імя Кірава**

*Валерый Раманавіч* **Піскуноў** *пасеяў збожжавыя на* **606га.** *Алег Анатольевіч* **Акушэвіч** *узараў* **310га** *глебы.*

**Калгас імя Дзяржынскага**

*Валерый Станіслававіч* **Бычкоў** *пасеяў збожжавыя на* **339га.** *Уладзімір Аляксандравіч* **Грыневіч** *унёс мінеральныя ўгнаенні на* **1200га.**

**Саўгас імя Кірава**

*Сцяпан Апанасавіч* **Стэльмакоў** *пасеяў збожжавыя на* **356га.** *Васіль Фролавіч* **Стэльмакоў** *падрыхтаваў да сяўбы* **670га.** *Рыгор Логвінавіч* **Іваноў** *задыскаваў* **406га** *глебы.*

**Калгас “Рассвет” імя К.П.Арлоўскага**

*Уладзімір Аляксеевіч* **Грамыка** *пасеяў збожжавыя на* ***466***, *а Мікалай Віктаравіч* **Бандарэнка — на 447га.** *Уладзімір Уладзіміравіч* **Бяляўскі** *пасадзіў бульбу на* **102га.** *Іван Леанідавіч* **Салановіч** *падрыхтаваў да сяўбы* **810га** *глебы. Іван Рыгоравіч* **Мароз** *унёс мінеральныя ўгнаенні на* **1177га.** *Уладзімір Васільевіч* **Асос** *чызельным культыватарам апрацаваў* **832га.** *Аляксандр Яўгенавіч* **Сакалоўскі** *забаранаваў* **643га.** *Анатоль Барысавіч* **Шчэрбіч** *пагрузіў* **12,2 тыс.тон** *арганікі.*

**Калгас імя Калініна**

*Анатоль Мікалаевіч* **Зайцаў** *за дзень пасеяў збожжавыя на* **33га.**

**Калгас “Радзіма”**

*Аляксандр Якаўлевіч* **Чайка** *пасеяў збожжавыя на* **600га.** *Юрый Іванавіч* **Таркан** *пасеяў зерневыя і аднагадовыя травы на* **310га.** *Мікалай Уладзіміравіч* **Кед** *пасеяў збожжавыя , бабовыя і травы на* **300га.** *Генадзь Яўгенавіч* **Варсоба** *з райаграпрамтэхзабеспячэння і Аляксандр Сяргеевіч* **Цярэшчанка** *на падрыхтоўцы глебы выконваюць дзённыя нормы на* **150-160%.**

**Калгас “Камуніст”**

*Фёдар Рыгоравіч* **Петрусёў** *пасеяў збожжавыя на* **433,** *а Алег Мікалаевіч* **Плашчынскі** *— на* **417га.** *Аляксандр Іванавіч* **Есянецкі** *пагрузіў* ***13 тыс.тон*** *арганікі.*

**Калгас “ІІІ з’езд Саветаў”**

*Валянцін Паўлавіч* **Ждановіч** *з райаграпрамтэхзабеспячэння пасеяў збожжавыя на* **160га.** *Іван Цярэнцьевіч* **Храмовіч** *на АКШ апрацаваў* **403**, *а Уладзімір Мікалаевіч* **Комар** *і Фёдар Рыгоравіч* **Медзвядзеў** *чызелем —* **356га** *глебы. Васіль Віктаравіч* **Храмовіч** *і Іван Пятровіч* **Лазаковіч** *унеслі мінеральныя ўгнаенні на* **980га.**

**ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ аб ходзе яравой сяўбы на 2 мая г.г.**

| Гаспадаркі | Пасеяна (у % да плана) |
|---|---|
| СКП «Чырвоны баец» | 96,3 |
| с-с імя Кірава | 90,2 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 88,2 |
| СКП «Ніва» | 86,6 |
| с-с «Шыннік» | 83,1 |
| «Камуніст» | 74,5 |
| «Беларусь» | 69,9 |
| імя Чапаева | 67,6 |
| імя Свярдлова | 66,1 |
| «Бераснёўскі» | 66,0 |
| імя Ільіча | 64,6 |
| імя Дзяржынскага | 64,6 |
| «ІІІ з’езд Саветаў» | 62,1 |
| «Радзіма» | 60,4 |
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 58,9 |
| імя Калініна | 57,7 |
| імя Кірава | 56,9 |
| Усяго па раёне: | 69,3 |

## УСЕ РАБОТЫ ВАЖНЫЯ

Учора старшыня райвыканкама А.С.Сцяпанчанка і яго першы намеснік, начальнік райсельгасхарчу С.У.Свірко правялі аператыўную нараду з кіраўнікамі гаспадарак, прадпрыемстваў і арганізацый АПК, упаўнаважанымі райвыканкама на месцах.

Былі разгледжаны пытанні завяршэння сяўбы яравых культур, становішча ў жывёлагадоўчай галіне. Увага прысутных звернута на неабходнасць хутчэйшага заканчэння рамонту кормаўборачнай тэхнікі, арганізацыі догляду за пасевамі.

У гаспадарках павінна быць прадоўжана работа на навядзенню парадку на машынных дварах і жывёлагадоўчых фермах, тэрыторыях паблізу іх.

Былі абмеркаваны і некаторыя іншыя надзённыя пытанні.

**Ул.інф.**

### Жывёлагадоўля



Фота Івана Лукановіча.

***З улікам дэфіцыту канцэнтратаў жывёлаводы калгаса “Беларусь” нядрэнна завяршаюць стойлавы перыяд грамадскага статка. Найбольш гэта бачна на прадуктыўнасці дойнага пагалоўя: у параўнанні з мінулым годам узрасла і вытворчасць малака на ўмоўную адзінку зямлі, і сярэднясутачныя надоі на карову.***

***У дасягнутае важкі ўклад уносяць і даяркі цэнтральнай фермы гаспадаркі Раіса Ягораўна Карпава, Таццяна Пятроўна Ерамеева і Тамара Васільеўна Гарчакова. Вопытныя, старанныя жанчыны атрымліваюць ад каровы на адзін-два кілаграмы прадукцыі ў дзень больш, чым па калгасу.***

***Перадавыя работніцы забяспечылі поўную захаванасць цялят.***

## ВЫВУЧАЛІ ВОПЫТ РАБОТЫ

Пры аблвыканкаме працуюць пастаянна дзеючыя курсы павышэння кваліфікацыі, дзе праходзяць перападрыхтоўку інструктары, загадчыкі аддзелаў, іншыя катэгорыі работнікаў рай- і гарвыканкамаў. На мінулым тыдні вучыліся загадчыкі арганізацыйна-інструктарскіх аддзелаў, якія і наведалі наш раён. Іх цікавіла, як вырашаюцца сацыяльныя пытанні ў раёне.

Першым чынам гасцей прыняў кіраўнік раённай “вертыкалі” А.С.Сцяпанчанка, які падрабязна ахарактарызаваў становішча спраў у прамысловасці, аграрным сектары, будаўніцтве, сферы абслугоўвання, гандлі. Асаблівы акцэнт у выступленні старшыні быў зроблены на навядзенне чысціні і парадку не толькі ў гарадскім пасёлку, але і ў сельскіх населеных пунктах. А.С.Сцяпанчанка адказаў на пытанні прысутных.

Кіраўнік спраў райвыканкама А.М.Леановіч у сваім выступленні расказала аб структуры райвыканкама, кадрах, рабоце выканкама. Адзначалася, што сталі добрай традыцыяй выезды ў працоўныя калектывы, сельскія Саветы старшыні райвыканкама, яго намеснікаў, інфармацыйна-прапагандысцкіх груп, дакладчыкаў. Такія сустрэчы і вусныя прыёмы грамадзян па месцы жыхарства станоўча ўплываюць на маральна-псіхалагічны клімат у працоўных калектывах. Як вынік, скарацілася колькасць зваротаў грамадзян у вышэйстаячыя інстанцыі і сродкі масавай інфармацыі.

Аб рабоце арганізацыйна-інструктарскага аддзела гаварыла яго загадчык Н.П.Суравец. Яна, у прыватнасці, падкрэсліла, што работнікі апарата райвыканкама ўдзельнічаюць у рабоце сесій і сельвыканкамаў. Стала правілам вучобу актыву праводзіць на базе аднаго з Саветаў. Удзельнікі такіх семінараў, прысутнічаючы на пасяджэнні выканкама ці удзельнічаючы ў рабоце сесіі, выказваюць заўвагі і прапановы аб іх правядзенні. Н.П.Суравец пазнаёміла калег з сістэмай работы, якая выпрацавана ў райвыканкаме, за выкананнем прынятых рашэнняў.

Знаёмства з раёнам пачалося з наведвання Мышкавіцкага сельскага Савета. Госці азнаёміліся з дакументацыяй, падоўгу затрымліваліся каля прыгожа аформленых стэндаў, з якіх можна даведацца аб ходзе грамадскага агляду санітарнага стану населеных пунктаў сельсавета, аб умовах штогадовага агляду. На бачным месцы вывешаны спіс саставу камісіі па добраўпарадкаванню, план яе работы. А на стэндзе “Нашы дэпутаты” прыведзены не толькі кароткія біяграфіі дэпутатаў сельскага Савета, а і назвы акруг, па якіх яны выбраны.

Самыя прыемныя ўражанні засталіся ад наведвання нашага ўніверсама “Меркурый”, дзіцячага і маладзёжнага кафэ. Госці цікавіліся і выкананнем плана таваараабароту, кухняй абодвух кафэ, паспыталі розных прысмакаў, якіх тут пастаянна шырокі выбар.

Запомніцца экскурсія і ў Дом творчасці моладзі. І запомніцца яна не толькі дзеючымі выставамі работ юных гурткоўцаў. Не менш важны і інтэлектуальны накірунак у выхаванні рабят. Пры Доме творчасці створаны і дзейнічае клуб інтэлектуальных гульняў, якім кіруе настаўнік СШ №1 І.І.Лукашоў. А тут поспехі кіраўскіх школьнікаў значныя: яны станавіліся прызёрамі і пераможцамі многіх турніраў юных інтэлектуалаў. Прыемна, што работа ў гэтым накірунку не прыпыняецца. На змену вучням, якія скончылі школу, прыходзяць хлопчыкі і дзяўчынкі, што сёння вучацца. Здзівілі гасцей і поспехі юных інспектараў дарожнага руху.

Наступным аб’ектам семінара быў фельчарска-акушэрскі пункт у Барчыцах. У такую медыцынскую ўстанову на вёсцы людзі звяртаюцца са сваімі хваробамі і просьбамі. Тут акажуць неабходную першую медыцынскую дапамогу, калі патрэбна, накіруюць да ўрача ў раённую паліклініку. А яшчэ на ФАПе працуе стаматолаг. У любы дзень без чаргі жыхары з Барчыц, Глыбокавіч, іншых навакольных вёсак могуць тут палячыць зубы.

Барчыцкая базавая школа размяшчаецца ў тыпавым будынку. Такіх школ шмат у вобласці. Для Барчыцкай характэрна тое, што на працягу апошніх васьмі гадоў тут не праводзілі капітальнага рамонту, на які, як вядома, няма грошай. З другога боку, няма неабходнасці яго праводзіць. Вялікая заслуга ў гэтым кіраўніцтва, педагагічнага і дзіцячага калектыву навучальнай установы, якія падтрымліваюць чысціню, утульнасць і парадак.

Многія, калі не большасць удзельнікаў семінара, у Жылічах былі ўпершыню. Іх цікавілі ўмовы вучобы і адпачынку навучэнцаў каледжа. Трэба сказаць, што такую магчымасць яны атрымалі, наведаўшы вучэбныя кабінеты, спартыўныя залы, бібліятэку і азнаёміўшыся з іх аснашчанасцю. У спецыялізаванай зале цяжкай атлетыкі, дзе ў свой час праходзілі трэніровачныя зборы алімпійскія чэмпіёны, чэмпіёны свету, Еўропы, СССР Леанід Тараненка, Валерый Шарый, іншыя знакамітыя спартсмены, выхаванцы мясцовага трэнера Л.Р.Самусева прадэманстравалі сваё майстэрства.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## “ДАДЗІМ ШАНЦ МАЛАДЫМ”

**Такую назву атрымала праграма дзейнасці Беларускага патрыятычнага саюза моладзі на 2000-2003 гады, прынятая яго другім з’ездам, які адбыўся ў Мінску ў канцы красавіка. Удзел у рабоце з’езда прынялі прадстаўнікі нашага раёна: першы сакратар РК БПСМ Віктар Котаў, як дэлегат, і загадчык аддзела па справах моладзі райвыканкама Сяргей Гаўрылаў у якасці запрошанага.**

**Сёння Віктар Котаў дзеліцца на старонках “Кіраўца” сваімі ўражаннямі аб прайшоўшым маладзёжным форуме:**

— Біяграфія Беларускага патрыятычнага саюза моладзі зусім кароткая — усяго тры гады. Але гэты час не быў патрачаны дарэмна. Створана працаздольная і самая масавая маладзёжная арганізацыя ў рэспубліцы. Гэта падкрэсліў у сваім выступленні на другім з’ездзе БПСМ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка. Ён адзначыў, што ў многім хаатычны, але непазбежны перыяд станаўлення закончыўся і перад моладдзю рэспублікі, другім з’ездам БПСМ стаіць задача намеціць дакладную, зразумелую праграму дзейнасці арганізацыі, якая б магла прапанаваць маладым людзям не толькі “даць шанц”, але і шырокую дарогу ў жыцці ў сваёй дзяржаве, на сваёй зямлі.

З’езду папярэднічала вялікая арганізацыйная работа. Паўсюдна, у тым ліку і нашым раёне, актыўна прайшла справаздачна-выбарная кампанія ў “пярвічках”, дэлегаты з’езда былі падрыхтаваны да вядзення сур’ёзнай, дзелавой і канструктыўнай размовы. На гэта нас нацэліў у сваім выступленні і Прэзідэнт краіны. Дыскусія атрымалася вельмі цікавай. На з’езд сабраліся маладыя людзі ва ўзросце ад 16 да 36 гадоў з усіх куточкаў Беларусі. Была вясковая і гарадская моладзь, студэнты, рабочыя, школьнікі. І ўсіх іх аб’яднаў Беларускі патрыятычны саюз моладзі.

Што такое патрыятызм? Па нашаму, — гэта простыя, добрыя, і высакародныя справы. Дзясяткі, сотні маленькіх, непрыкметных добрых учынкаў, з якіх складваецца жыццё кожнага прыстойнага і сумленнага чалавека. Так, у нашым жыцці іншы раз не бывае месца гучнаму подзвігу, але заўсёды знойдзецца месца для сціплай, але вельмі карыснай і патрэбнай людзям справы. Той, хто добраахвотна паклапаціўся аб ветэране, дапамог інваліду, заступіўся за несправядліва пакрыўджанага, парадаваўся, а не пазайздросціў поспехам суседа, — пра такога заўсёды можна сказаць, што ён патрыёт.

Патрыятызм выхоўваецца толькі праз добрыя справы, праз міласэрнасць. Каб любіць Радзіму, трэба навучыцца любіць людзей. З усіх спраў, якімі з пачатку свайго заснавання займаўся БПСМ, галоўнымі, бясспрэчна, з’яўляюцца дапамога ветэранам, дзецям-сіратам, інвалідам, аднаўленне помнікаў, пошукавая работа. А самае галоўнае, што па ўсёй рэспубліцы ва ўсім гэтым удзельнічае больш 200 тысяч маладых людзей, членаў БПСМ.

Аб усім гэтым ішла гаворка на з’ездзе: і ў выступленняў дэлегатаў, і ў справаздачным дакладзе першага сакратара ЦК БПСМ Усевалада Янчэўскага. Было падкрэслена, што ў далейшай рабоце арганізацыі неабходна выкарыстоўваць усе магчымасці, якія адкрыты перад БПСМ, больш цесна супрацоўнічаць з уладамі, тым больш, што для гэтага створаны ўсе ўмовы, развіваць гаспадарчую дзейнасць, актывізаваць інфармацыйную дзейнасць.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

